Koszta pocztowe opłacone ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 42. Вільня, Пятніца, 19-га верасьня 1924 г. Год I.

## Барацьба пачалася.

Ужо толькі 11 дзён дзеліць нас ад мамэнту ўваходу ў сілу для насяленьня *і для ўлады* законаў аб беларускай мове ў урадаваньні і аб нашай роднай школе. І вось, у сувязі з гэтым, да нас наплываюць дзесяткі карэспандэнцыяў з жальбамі на тое, што ўлада на мясцох, апіраючыся на старых—праціканстытуцыйных — правілах і цыркулярах, і слухаць ня хоча аб беларускіх школах!

Сяньня мы, паміж іншым, друкуем карэспандэнцыю, з якое відаць, што паліцыя ўжо пачынае тэрарызаваць „mądrych chłopów“, якія ўваходзяць за сваё....

Ад першага дня, калі быў абвешчаны зьмест „языковых“ законаў, мы паўтаралі, што нельга верыць у правядзеньне ў жыцьцё нават тае дробнае, далёка ня поўнае і яўна няшчырае уступкі з боку ўлады беларусам, якую зьмяшчаюць гэныя законы, *калі іх будуць праводзіць у жыцьцё старыя ўрадоўцы.* Не магло быць ніякага сумляваньня ў тым, што людзі, якія выбралі сабе за прафэсію барацьбу з усімі праявамі беларушчыны, здолеюць з ваўкоў ператварыцца ў ягнят і роўна ад 1 кастрычніка распачаць работу, супярэчную з усенькай іх ранейшай дзеяльнасьцяй.

Жыцьцё пацьвярджае ўсё гэта. Жыцьцё паказуе, што запраўды дзікой і сьмешнай зьяўляецца думка, быццам польская школьная адміністрацыя, напрактыкаваўшаяся за пяць гадоў выключна толькі ў *закрываньні і разганяньні беларускіх школ, вучыцельскіх сэмінарыяў і гімназіяў*, здольна адбудаваць прынамся тое, што яна зьнішчыла.

І вось перад намі сам сабой паўстае той першы крок, які павінна зрабіць польская ўлада, калі яна зьбіраецца запраўды зьдзейсьніць загады новых законаў. Крок гэты — *аддача школьнае справы ў рукі самога беларускага грамадзянства*, эвэнтуальна—ў рукі адумысна запрошаных урадоўцаў-беларусаў, запрапанаваных нашым арганізаваным грамадзянствам з Школьнай Радай на чале.

Мы ясна і выразна назавем справу яе запраўдным іменем: мы трэбуем для беларускага насяленьня Польскае Рэспублікі *самае шырокае школьнае аўтаноміі.* І мы перакананы, што—асабліва з увагі на сучасны адумысны падбор урадоўцаў „асьветнага ведамства“—іншае дарогі ў школьнай справе ў Заходняй Беларусі няма і быць ня можа!

Мы таксама перакананы, што гэтае дамаганьне—адзінае рэальнае і магчымае ў нашых варунках—сустрэне дружны і востры адпор, як з боку польскае ўлады, так і з боку ўсяго польскага грамадзянства. Але тым больш энэргічна павінны мы дабівацца свайго, не згаджаючыся ні на якія „эрзацы“ і баламутныя гутаркі.

Тая агульна - эўрапэйская палітычная кон'юнктура, як кажуць дыпляматы, або той уклад варожых да Польшчы сіл, які дыктуе лінію паступаньня ўсенькай Эўропе, паказуе, што *толькі ў гэты мамэнт* мы, крэпка стаючы на грунце свайго дамаганьня, можам дабіцца зьдзейсьненьня гэтага дамаганьня. Справа украінскага унівэрсытэту хай будзе для нас прыкладам.—Як ведама, польскі ўрад пастанавіў для украінцаў адкрыць унівэрсытэт не на украінскай тэрыторыі—так-сказаць, у іх *дома*, а ў Кракаве. Проці гэткае думкі выступіла вельмі востра ўсё украінскае грамадзянства, бяз розьніцы партыяў і кірункаў. І сіла пратэсту, і дзікасьць праекту тварэньня *украінскага* унівэрсытэту ў *чыста-польскім* горадзе—былі гэткія, што проці Польшчы і ў гэтай справе, як і ў шмат якіх іншых, паўстала грамадзкая думка ўсяе Эўропы. Дык вось, міністар заграгічных спраў Польшчы, п. Скшыньскі, каб неяк аслабіць няпрыхільны да Польшчы агульны настрой учасьнікаў сэсіі Лігі Народаў, аказаўся прымушаным заявіць у сваей прамове на засяданьні Лігі, што дамаганьне украінцаў мець унівэрсытэт на іх роднай зямлі *будзе польскім урадам споўнена.* А сьледам за гэтым кракаўскі „Czas“ друкуе вестку з Варшавы, што заяву п. Скшыньскага падтрымлівае ўвесь урад п. Грабскага.

Мы гэта павінны мець на ўвазе. Мы павінны цьвёрда і няўхільна дамагацца *гарантыі*, што ўрад на дзеле не падменіць беларускае школы нейкім паскудным „эрзацам“. Гэтаму перашкодзіць і можа толькі *аўтаномія беларускае школы, забясьпечаная адпаведным дзяржаўным бюджэтам.*

Не дадуць нам гэтага, будуць фабрыкаваць нейкія „эрзацы“ беларускае школы пры дапамозе розных „купляных“ беларускіх здраднікаў, — дык мы кінем усе надзеі і спадзяваньні на *дзяржаўную* беларускую школу і распачнем будаваньне сваей уласнай—*прыватнай* народнай школы, яўнай — або нават тайнай. А калі і ў гэтым нам будуць рабіцца перашкоды, дык вынікі такое палітыкі могуць аказацца шмат больш няпрыемнымі для Польшчы, чым—для нас....

## Нашыя „прыраджоныя гаспадары“.

„Адміністрацыйна-Паліцэйская Газэта“ падае гэткія „маральныя кваліфікацыі“ нашых „паліцэйскіх гаспадароў“ — толькі за паўгоду: ад 1 студзеня да 1 ліпня гэтага году.

На паноў „пшодоўнікаў“ было агулам наложана 2040 караў, і 118 важнейшых спраў перaданы суду...

Ніжэйшых, звычайных паліцыянтаў пакаралі наагул 13.623, а суду аддадзены 575 спраў.

За розныя больш - менш важныя „абмылкі“ па службе былі ўсяго 4.525 кары, за драбнейшыя—4.284. За п'янства — 2 223 кары, за дзерзкасьць — 945, за біцьцё ў цыркулах — 96 (толькі?!). Выгнана зусім са службы — 945...

Няма толькі статыстыкі, колькі ўцякло да СССР...

## Вольная трыбуна.

### Вывады.

(*Гл. арт. „Паквіталіся“ ў № 41 „Сына Беларуса“*).

I.

У сваіх сэнсацыйных „рэвэляцыях“, зробленых, як кажуць, „заднім чыслом“, Балаховіч кажа аб Савінкове, што „здрада“ ў Савінкова зарадзілася ў мамэнт Рыжскага міру.

Што-ж у гэтым спэцыфічна-цікавага для нас, беларусаў?

А вось паслухайце!

Той самы Рыжскі мір, які, па жываеднай думцы сваіх тварцоў, павінен быў **пагадзіць іх**—коштам жывога жыцьця парэзанай на дзьве паловы Беларусі, — у запраўднасьці ня толькі не пагадзіў іх, але яшчэ **завастрыў іх „гістарычную спрэчку“** да найвышэйшай ступені, стварыў паміж імі—„мір, горшы за вайну“.

Але бязсумліўна найцікавейшым рэзультатам гэтага „міру“ зьявілася тое, што **„ад мамэнту яго заключэньня“ пачалі гадзіцца не Расея з Польшчай**, а тыя розныя „Расеі“—„Першая“, „Другая“, „Трэцяя“, якія да таго вялі паміж сабой зусім нігілістычна-варожую барацьбу.

**„Сумленнае выпаўненьне“** Польшчай на практыцы ідэі Рыжскага міру—пагадзіла ў барацьбе **проці яе** ўсе і ўсялякія „Расеі“, а **адыход** ад гэтае ідэі дзяржаўнага будаўніцтва С.С.Р.Р. пачаў цягнуць да ССРР усіх тых, хто зразумеў запраўдны зьмест таго, што было зроблена ў Рызе.

Але гэта йшчэ ня ўсё.

Аўтар гэтых радкоў больш дзесятка гадоў назад даў гэткую агульную формулу беларускай палітыкі:

„Divide et cresce!“—„разьдзяляй і расьці!“.

Гэта значыць: калі Беларусь ня хоча быць падзеленай, ці, пасьля фактычнага падзелу, страўленай часткамі сваімі ворагамі, яна павінна **сама — сваім унутраным нацыянальным адзінствам — разьдзяляць** Расею і Польшчу. Беларусь **будзе расьці**, паскольку **будзе іх разьдзяляць, і будзе разьдзяляць, паскольку будзе расьці.**

І вось, лёс Рыжскага міру найлепш даказывае слушнасьць гэтай формулы.

Вялікі гістарычны спрыт радавага ўраду якраз і зьмяшчаецца ў тым, што ён перамог, адкінуў старую захватніцкую ідэю Расеі і мэту Рыжскага Трактату, **даўшы дарогу і магчымасьць** расьці тэй самай Беларусі (і Украіне), якую гэным Трактатам сам маніўся „разьдзяліць і ператравіць“ у паразуменьні з Польшчай.

Бо гэтым ён **адначасна перамог і польскую мэту і „ідэю“ Трактату.** Даўшы дарогу Беларусі,—росту яе жыцьця, сэрца і мозгу, даўшы волю і гэтым стварыўшы магчымасьць самастойнага арганічнага разьвіцьця **для сваей паловы** разрэзанай на часткі Беларусі, ССРР стварыў тое, што **да гэтай паловы**, навакол паўстаўшых у ёй мазгавых цэнтраў арганічнага жыцьця, **пачнуць прырастаць усе тыя часткі і кавалкі, на якія парэзана рознымі захватамі і „трактатамі“ жывая Беларусь.** Натуралісты добра ведаюць гэтае агульна-біалягічнае зьявішча, а нават кожны вясковы хлопец можа прасачыць, як лёгка адрастае праз якісь год у яшчаркі адламаны ў яе „па рыжску“ хвост.

І вось, мы бачым, як нарастаючая на Ўсходзе **адзіная** Беларусь пачала сама разьдзяляць сваіх нібыто памірыўшыхся ўжо коштам яе жыцьця і на яе загубу ворагаў, пачала ўсё больш **моцна і непадзельна зрастацца ў непернагражным арганічна-нацыянальным адзінстве.** Пачала **анулявать аканчальна той Рыжскі Трактат**, які быў падпісаны без яе згоды і подпісу!..

Вось што ўжо робіць і пэўна-ж **зробіць да канца** Беларусь для сябе і для ўсей „Расеі“. І гэта — вынік таго, што „Расея“ **адмовілася ад жываеднай мэты Рыжскага міру.** Беларусь **зусім бязкроўна, верне як сабе самой, так і Радаваму Саюзу**—Вялікай Усходняй Конфэдэрацыі—адламаны ў 1921 годзе кавалак жывога свайго цела, з якога польская палітыка, руйнуючы ў „сваей“ частцы Беларусі ўсялякія „цэнтры“, **зрабіла толькі запраўдны „хвост“ „нашыя беларускія Крэсы“.**

І ці-ж мы ня бачым, як гэты адламаны ў Рызе „хвост“ пачынае ўжо ў зусім жывой беларускай „яшчаркі“ адрастаць?..

Аўтар гэтых радкоў, „грэшным дзелам“, як кажуць расейцы, думаў, а нават пісаў у свой час, што можа польскія палітычныя „натуралісты“, парэзаўшы Беларусь на дзьве часьці, дагадаюцца пакласьці ўсе свае сілы і стараньні дзеля таго, каб **галава Беларусі** і ўсе важнейшыя цэнтры яе арганічнага жыцьця стварыліся на Захадзе, **на „польскай“ палове**, пакінуўшы другой палове толькі „пустое бруха“. Тады-б, зразумела, усе паказаныя вышэй зьявішчы **пайшлі-б зусім у адваротным кірунку.** Але-ж польскі „геній“ аказаўся зусім няздольны да шырэйшага, выходзячага па за межы „правінцыяльна - нацыянальна - польскага сусьвету“, дасьледу і творчасьці!.. Наадварот, — заглядзеўшыся на свае „гістарычныя скарбы“—„wiarę i język“, моцна трымаючы ў сваей романтычнай душы розныя спарахнелыя „гарадэльскія“ ці „ягелёнскія ідэі“, **ствараючы „крэсы“ з захопленых, дзякуючы гістарычнаму прыпадку, чужых тэрыторыяў і—„хвасты“ з жывых нацыянальна-сьвядомых народаў, гэты „польскі геній“ на нашых вачох выпускае з сваіх паліцэйска-цэпкіх, але-ж бязсільных у нашыя часы кіпцюроў гэтыя адламаныя, але ўсё ж жывыя, прырастаючыя ізноў да жывога цела, вёрткія і сьліскія „хвасты“—беларускія і украінскія „Крэсы“...** Гэтак ідзе непераможная жывая гісторыя народу, у якой кожны—сам свайго лёсу каваль!..

**С.**

### Ізноў напад пад тымі-ж Стоўпцамі.

„Dzien. Wil.“ падае, што пад Стоўпцамі ізноў 8 узброеных карабінамі і рэвальвэрамі бандытаў зрабілі напад на шляху да Рубяжэвіч...

### Забастоўка пекараў у Варшаве.

Ужо некалькі дзён уся Варшава сядзіць бяз хлеба, бо ўсе хлебапёкі бастуюць.

### Ізноў францускія адведзіны...

У Варшаву прыехала група афіцэраў францускага генэральнага штабу, з начальнікам важнага аддзелу на чале.

### Супольныя манёўры.

Як падае Усх. Агенцтва, у „польскім моры“ (каля Гданску) адбыліся супольныя манёўры радавага і нямецкага флёту. — Польская агенцтва вельмі абураецца гэтай „ваеннай дэманстрацыяй“ на польскіх водах, скіраванай проці Польшчы(?), — асабліва ў часе Кангрэсу Лігі Народаў у справе разбраеньня, і заклікае ўрад — „як у найхутчэйшым тэмпе будаваць уласную збройную сілу на моры“...

Добрая рада! Вось толькі каб „A. W.“ яшчэ і грошы пазычыла на гэтую будову!...

### Савінков за працай у ССРР.

Як мы і прадбачылі, Савінков ужо пачаў працаваць у ССРР. Ён пачаў гарачую кампанію ў радавай прэсе, заклікаючы расейскую эміграцыю да павароту ў ССРР.

Перад тым там-жа зьмясьціў рад артыкулаў камісар народнае асьветы, Луначарскі, сцьвярджаючы вялікі літэратурны дар Савінкова і выражаючы надзею, што Савінков выкарыстае гэтыя свае таленты на дабро рабоча-сялянскіх Рэспублік. Пішуць таксама, што Савінкову заказана ўрадам напісаць падробныя ўспаміны аб усім, што ён перажыў, як вораг Радавай Расеі...

### Паўстаньне ў Грузіі.

Грузінскае пасольства ў Варшаве падае, што паўстанцы занялі дар'яльскі праход і паўзрывалі масты на чыгунках.

З Парыжу даносяць, што паўстанцы занялі Батум і выразалі ўсіх радавых чыноўнікаў і жаўнераў...

### Урад ССРР не згаджаецца на палюбоўны суд.

Радавая прэса надрукавала паўафіцыяльны камунікат аб тым, што радавы ўрад ня згодзіцца ні на пасрэдніцтва, ні на палюбоўны суд Лігі Народаў у справе Грузіі.

Галоўнае камандаваньне ўсей акцыяй проці Грузіі мае атрымаць Троцкі.

### „Эвакуацыя“ акупаваных тэрыторыяў Нямеччыны.

Зычлівае для Францыі Польскае Тэлеграфнае Агенцтва стала падае аб тым, як сумленна францускі ўрад выпаўняе умоўленую ў Лёндоне эвакуацыю нямецкай тэрыторыі. Апошняя тэлеграма падае, што „францускія войскі ў раёнах Дортмунду, Бохума і Гельзэнкірхена энэргічна рыхтуюцца да эвакуацыі“.

Але ж вось што падае „Українські Голос“,— відаць, з нямецкіх крыніц.

„Францускія нацыяналісты, а перадусім—генэралы ідуць выразна проці лёнданскіх пастаноў. У гэтым адкрываецца запраўднае абліччa Францыі, якая абыходзіць усякія дагаворы і пастановы, ды йшчэ мае настолькі сьмеласьці, што закідае другім нарушэньне ўмоваў і Трактатаў!.

„Справа ў тым, што Францыя абязалася ў Лёндане да 1 верасьня вывязьці свае войскі з правага берагу Рэйну,—з места Дортмунду. Эрыо падпісаў аб гэтым у Лёндане ўмову. Але—ў Парыжу на гэтае не згадзіліся ані... Пуанкарэ з сваімі магутнымі нацыяналістамі, ані—яшчэ больш магутныя ў сучаснай мілітарыстычнай Францыі генэралы... І вось, гэтыя генэралы, зусім ня слухаючы паўнамоцнага францускага ўраду, выдалі камунікат, што яны не забяруць свайго войска з Дортмунду, але застануцца ў гэтым раёне яшчэ можа да 10 тыдняў... „Вось як выкручываецца з сваіх абавязкаў па ўмовам тая самая „ляяльная“ Францыя, што гэтак па рыцарску стаіць на старожы Трактатаў..., якія для яе карысны!

Газэта падае, што ня толькі Нямеччына страшэнна абурана на гэткае наступаньне Францыі, тым больш, што рэпарацыйная камісія прызнала яе поўную ляяльнасьць, але—што Англія і Італія —рашуча ўступіліся за Нямеччыну і выступілі на агульным Сабраньні Лігі Народаў з пратэстам і ў абароне Нямеччыны.

Вельмі цікава, ці здалее паўнаўладны францускі прэм'ер падцягнуць сваіх генэралаў, ці ўступіць нацыяналістам?

Цікава, што аб гэтым сусьветным скандале польская прэса і агенцтвы—як вады ў рот набралі: ані гугу!

### Забойствы і забурэньні ў Баўгарыі.

У Баўгарыі забіты ў апошнія дні тры выдатнейшыя дзеячы македонскай аўтаномнай думкі, з якіх адзін—пасол Баўгарскага Парляманту. Спадзяюцца забурэньняў.

### Ваенныя меры Югаславіі.

У зьвязку з здарэньнямі ў Баўгарыі югаслаўскі ўрад загадаў прыняць меры да абароны паўдзённай граніцы (з Баўгарыяй).

„Kur. Por.“ падае, са слоў свайго карэспандэнта, быццам баўгарскія здарэньні правакуюцца з Белграду...

### У справе разбраеньня Даніі.

Дацкі ўрад, у зьвязку з праектам разбраеньня, пачаў перагаворы з англійскім урадам аб заключэньні абароннага саюзу. На думцы гэтага саюзу абарону Даніі бярэ на сябе англійскі флёт, для якога будуць, як для свайго, адчынены ўсе порты Даніі.

### „Рэвалюцыя“ ў Чылі.

Новы ваенны ўрад Хунты прыняў адстаўку прэзыдэнта Алессандры.

### „Рэвалюцыя“ ў Эквадоры.

У Эквадоры (маленькая дзяржава абок Чылі ў Паўдзён. Амэрыцы) адбылася гэткая-ж самая, як у Чылі, „рэвалюцыя“. — Афіцэры змусілі ўрад да адстаўкі і ўтварылі дырэктарыят. Гэты дырэктарыят быццам мае далучыць край да Бразыліі (?).

### Хатняя вайна ў Кітаю.

У Пэкіне аб'яўлена асаднае палажэньне і — мабілізацыя 60 тысячаў войска. Манчжурская армія шпарка пасоўваецца ў напрамку Пэкіна.

### „Хатняя вайна“ ў Арабіі.

У Арабіі таксама, як у Кітаі, выбухнула „хатняя вайна“, якая таксама мае мэтай вызваленьне з-пад панаваньня англійцаў.

Як ведама, у рэзультаце Вялікай вайны на ўсю Арабію атрымала „мандат“ Англія, якой гэты вялізарны край патрэбны, паміж іншым, як сухапутны шлях у Індыю, ня лічучы яго ўласных вялікіх багацьцяў.

Каб лягчэй было панаваць над краем, Англія, як ведама, падзяліла яго на 4 часткі, якім дала некаторую „самастойнасьць“...

Гэтыя „дзяржавы“ — **Гэджас**, з сьвятым для магамэтан местам Мэккай, **Мэсапатамія**, з багацейшымі крыніцамі газы ў Мосулю, — **Транс-Іорданія** — на ўсход ад Палестыны, за ракой Іорданам; і — **Палестына**. Каб мацней і больш „канстытуцыйна“ трымаць у сваіх руках насяленьне, англійцы „зрабілі“ для яго паслушнага сабе караля — Гусэйна, якога, аб'явіўшы каліфам („аўтакефальным мітрапалітам.“) усіх арабскіх магамэтан, пасадзілі на трон у Гэджасе, а двух яго сыноў — у Мэсапатаміі і Транс-Іорданіі. Як ведама, у Палестыне „пануе“ Высокі Англійскі Камісар...

Дык вось, арабы страшэнна абураны на гэткае фальшаваньне Англіяй іх самастойнасьці і пагражаюць на ладжаным усемусульманскім кангрэсе (праз год) у Каіры (ў Ягіпце) — выбраць сабе іншага каліфа. Асабліва абурае арабаў палітыка Англіі ў Палестыне, якую Англія зусім аддала жыдом. Каліфу Гусэйну закідаюць здрадніцкае маўчаньне аб усім гэтым перад англійскім урадам...

І вось, на гэтым фоне пачала рыхтавацца акцыя нацыянальнага вызваленьня. Але магчыма, што сучаснае выступленьне „вагабітаў“, якія пайшлі ў паход на Мэкку з вельмі нязначнымі сіламі, папросту справакавана Англіяй, каб лягчэй зьліквідаваць паўстаньне.

## Сэсія Лігі Народау.

### Справа разбраеньня.

Камісія ў справе разбраеньня скончыла агульную дыскусію над пытаньнямі бясьпечнасьці і абмяжаваньня збраеньняў і выбрала камісію з 12 сяброў, якая мае высьвятліць сувязь паміж паняцьцямі арбітражу (палюбоўнага суду), бясьпечнасьці і разбраеньня. Старшынёй камісіі выбраны Бэнэш.

### Брайтшэйд, аб „мірнай“ зьмене польскіх граніц.

Як ведама, у Жэневе сядзяць амаль ня ўсе галоўныя палітыкі Польшчы—як з правіцы, таксама і з лявіцы, працуючы разам з міністрам Скшыньскім на карысьць Польшчы, галоўным чынам—даказываючы карэктнае, „ідучае шмат далей, як вымагаюць Трактаты, трактаваньне польскім урадам нацыянальных меншасьцяў“...

І вось, вельмі няпрыемным для гэтай „польскай калёніі“ ў Жэневе здарэньнем зьявіўся рэфэрат вядомага сацыяліста Брайтшэйда — аб варунках польска-нямецкага паразуменьня... Група пэпээсаў з Недзялкоўскім на чале выразілі „моцнае зьдзіўленьне“ тым, што іх нямецкі „таварыш“ прапануе „мірнае і прыязнае паразуменьне Польшчы з Нямеччынай аб зьмене заходняй граніцы Польшчы“, што зьяўляецца ўступным варункам уваходу Нямеччыны ў склад Лігі Народаў...

„Robotnik“ прадаўжае ў Варшаве гэтую жэнеўскую палеміку польскіх і нямецкіх „таварышоў“.

Можам дадаць, што якраз наша газэта ўжо больш году заўсёды паўтарае, што, калі няможна, дзякуючы сучасным адносінам паміж „Заходам“ і „Усходам“, інакш, як праз вайну, уладзіць ужо надоўга і трывала справу ўсходніх граніц Польшчы, дык заходнія можна зусім бязкроўна—мірна і „прыязна“, як даводзіць цяпер Брайтшэйд (дый не адзін ён ужо!),—„стабілізаваць“ — бяз ніякай вайны—пры пасярэдніцтве Лігі Народаў, ці як небудзь інакш, абы толькі на гэта згадзілася Францыя, якая трымае „польскую вайну“ ў сваей кішані...

## ХРОНІКА.

**Беларускія дэлегаты на міжнародавым зьезьдзе студэнтаў.** На зьезьдзе ў Варшаве ёсьць два дэлегаты беларускіх студэнтаў, якія стварылі нядаўна сваю нацыянальную арганізацыю Заходняе Беларусі і Эміграцыі. Гэта — студэнты з Прагі Чэскай: Уладзімер Жылка і Клімовіч.

Беларускія дэлегаты, таксама, як і украінскія, адмовіліся карыстацца польскай гасьціннасьцю: кватэрай, абедамі, тэатрамі,—і прыймаць учасьце ў банкетах і іншых урачыстасьцях з увагі на варожыя адносіны Польшчы да нашага студэнцтва, для якога зачынены дзьверы польскіх унівэрсытэтаў.

**Радашкоўская васьмі-клясовая беларуская гімназія** шырыцца і ўмацовывацца.

Паступіла да гэтага дня 50 новых вучняў, найбольш дзеці сялян і сельскай інтэлігенцыі.

Адчынена прыгатаваўчая кляса, куды наплываець многа дзяцей. Дзякуючы адсутнасьці беларускіх пачаткавых школ, гімназія ўсё-ж такі йчшэ ня маець нармальнага прытоку вучняў.

Гімназія займаець 2 дамы на 14 пакояў. У галоўным будынку (быўшым доме старасьвецкага гараднічага з калёнамі і садам да ракі) месьцяцца старшыя клясы.

Гэты дом гімназія адрэмантавана, на рэмонт далі дапамогу: кс. пасол Станкевіч — грашыма, сэнатар Уласаў даў дошчак, п. Сніткова — бярвеньняў, п. Поржэцкі — 4 кубы драў. Усё беларускае грамадзянства памагае, чым можа, і гімназія маець вельмі добрае памешканьне.

Пры гімназіі адкрыты інтэрнат.

**А. Пшчолка.** Наш рэвальскі карэспандэнт паведамляе нас, што ў Рэваль (Талін— у Эстоніі) прыехаў з Віцебска вядомы беларускі пісьменьнік А. Пшчолка, аўтар чысьленых народных апавяданьняў, гумарыстычных маналёгаў і т. п.

**Падзяка.** Урад Беларускага Навуковага Таварыства дзякуе кс. Годлеўскаму за прысланыя для Музэю ім. Ів. Луцкевіча 3 срэбныя талеры і 7 шастакоў.

**У Беларускім Прытулку ў Горадні,** каторы ужо другі год, як адабраны адміністрацыяй ад Беларускага Камітэту, 7 г. м. ўтапіўся ў клязэтнай яме Паша Зеньчук, 4 гадоў. Няшчасьце здарылася дзякуючы недагляду. Цікава тое, што адміністрацыя заўважыла адсутнасьць хлопчыка толькі на другі дзень.

У зьвязку з гэтым горадзенцы вельмі нездаволены прытулковай адміністрацыяй, сілай накінутай горадзенскім староствам. Вельмі абураецца жыдоўская і нават польская прэса.

## Весткі з вёскі.

### Нашае жыцьцё.

Вёска **Харошча**, Косаўск. павету.

Да скарбніцы нявычарпальных надужыцьцяў „гаспадароў палажэньня“ над беларускім народам маю дабавіць пару фактаў.

Наша вёска знаходзіцца ў 10 вярстох ад павятовага места й 14 ад гміннага пастарунку. Ня гледзячы на гэта, амаль што ня кожну нядзелю прыяжджаюць паны паліцыянты да нас у „госьці“. Кожны раз, калі ні прыедуць, яны павінны дастаць на гарэлку, а едуць—калі трэба, калі й ня трэба. Калі прыедуць і, як ніхто з жыхараў вёскі ня прымець дзеля „панскага ўшанаваньня“, дык тады пачынаецца шуканьне непарадкаў і незаконнасьцей.

Ось, напрыклад. Нядаўна вяльможныя паны паліцыянты злавілі неяк на двары, праўдзівей, на гаспадарскім панадворку сабаку ў М. Германа й пачалі страшыць штрафам у 17 злотых. Але, калі гаспадар згадзіўся завязьці паліцыянтаў у суседнюю вёску, ды к гэтаму, як мае быць, „ушанаваў“ гарэлкаю, ды яешняю, тады яны сказалі „Dobrze, już nic nie będzie!“

У другога гаспадара тае-ж вёскі, С. Германа, знайшлі на падворку калючы дрот і прымушалі гэтага-ж гаспадара вязьці за 14 вёрст; але-ж, калі напіліся, тады „już niepotrzeba!“

А колькі было зьдзекаў, біцьця“! Зьдзекуюцца ня толькі паліцыянты. Вось каторы ўжо час, як наша вёска ніяк ня можа дагадзіць пану старосьце з сваім смакам выбару солтыса. Выбралі аднаго,—але чамусьці яго пан староста не ўпадабаў (бо ён не даваў зьдзекавацца над вёскай), дык і пайшоў ён, па загаду старосты, ў адстаўку. Выбралі другога,—тое самае. Хацелі ўжо больш не выбіраць, няхай бы п. староста прысылаў з Пазнані; але-ж яшчэ раз выбралі; але, мабыць, будзе й гэтаму тое самае, што й першым.

Больш за ўсё тут баламуціць упраўляючы суседняга маёнтку, які хоча падзяліць сэрвітут,

